*Сфера інтэрнэту сталася падкантрольнай дзяржаве. За распаўсюд інфармацыі трэба несці адказнасць. І, па зразумелых прычынах, не ўсім гэта падабаецца.*

*Лілія Ананіч, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

*Я б не раіў нікому фатаграфаваць падраздзяленні, будынкі,збудаванні, тэхнічныя сродкі, сродкі ўзбраення і асабовы склад органаў унутраных справаў і ўнутраных войскаў, вайскоўцаў, прадстаўнікоў іншых праваахоўных ведамстваў, суды.*

*Ігар Шуневіч, міністр унутраных справаў Рэспублікі Беларусь*



# ЗМЕСТ:

# СТАНОВІШЧА Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў СТУДЗЕНІ–САКАВІКУ 2015 ГОДА (АГЛЯД)

**Сітуацыя ў сферы СМІ ў першым квартале 2015 г. характарызавалася далейшым узмацненнем кантролю ўладаў за інфармацыйнай прасторай краіны.**

Набылі моц папраўкі, унесеныя ў снежні 2014 г. у закон "Аб сродках масавай інфармацыі", якія зрабілі больш жорсткім дзяржаўнае рэгуляванне распаўсюду інфармацыі ў інтэрнэце і традыцыйных медыях.

Пачаў дзейнічаць прэзідэнцкі Дэкрэт №6 ад 28 снежня 2014 г. "Аб неадкладных захадах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў", які прадугледжваў татальны кантроль за карыстальнікамі інтэрнэту. Былі прынятыя падзаконныя акты, якія прапісвалі парадак абмежавання доступу да інтэрнэт-рэсурсаў і адсочвання паводзінаў грамадзянаў у сусветным сеціве.




Некалькі інфармацыйных сайтаў былі зноў заблакаваныя на некалькі дзён.

Працягваўся пераслед журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

Павялічылася колькасць папярэджанняў з боку Міністэрства інфармацыі ў дачыненні да рэдакцыяў СМІ па нязначных прычынах.

На падставе непублічнага ўказання Міністэрства ўнутраных справаў супрацоўнікі міліцыі неаднаразова перашкаджалі правядзенню фота- і відэаздымак адміністрацыйных будынкаў. Пры гэтым адбываліся затрыманні журналістаў і звычайных грамадзянаў "для ўсталявання асобы" і праверкі адзнятых матэрыялаў.

Актывізавалася праца экспертных камісіяў па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці або адсутнасці ў ёй прыкметаў праявы экстрэмізму.

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў СТУДЗЕНІ–САКАВІКУ 2015 ГОДА

## ЗАКАНАДАЎЧЫЯ АБМЕЖАВАННІ ДЗЕЙНАСЦІ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

**1 студзеня 2015 г.** набылі моц папраўкі ў закон “Аб сродках масавай інфармацыі”, прынятыя ў снежні 2014 г. Гэтыя папраўкі, у прыватнасці, распаўсюдзілі адказнасць, прадугледжаную законам, на інтэрнэт-СМІ і абавязалі іх адсочваць каментары наведнікаў сайтаў. Міністэрства інфармацыі набыло права блакаваць доступ да анлайн-рэсурсаў (у тым ліку замежных) у пазасудовым парадку.

З пачатку года таксама набыў моц прэзідэнцкі Дэкрэт №6 “Аб неадкладных захадах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў”, падпісаны 28 снежня 2014 г. Сярод іншага, ён закранае дзейнасць “інфармацыйных рэсурсаў, размешчаных у глабальным кампутарным сеціве Інтэрнэт”. Дэкрэт утрымлівае нормы, якія нясуць пагрозы як свабоднаму распаўсюду інфармацыі, гэтак і вольнаму доступу да яе. Паводле нормаў Дэкрэта, у прыватнасці, прадугледжваецца:

- абавязак уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў адсочваць кантэнт;
- абмежаванне доступу да інфармацыйных рэсурсаў паводле ініцыятывы Міністэрства ўнутраных спраў;
- адміністрацыйная адказнасць уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў за невыкананне прадпісанняў Міністэрства інфармацыі пра неабходнасць выдалення паведамлення і/ці матэрыялаў, накіраваных на незаконны абарот наркотыкаў;
- кантроль за наведнікамі інтэрнэт-рэсурсаў.



**У адпаведнасці з пунктам 9 Дэкрэта з 1 студзеня 2016 г. надаўцы інтэрнэт-паслугаў абавязаныя "забяспечваць фармаванне і захоўванне актуальных звестак пра інфармацыйныя рэсурсы, якія наведваюць карыстальнікі інтэрнэт-паслугаў". Парадак ажыццяўлення кантролю за паводзінамі грамадзянаў у сусветным сеціве распрацаваны Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі (Пастанова №6 ад 18 лютага 2015 г.)**



Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і Аператыўнааналітычны цэнтр пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь зацвердзілі19 лютага 2015 г. "Палажэнне аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (ды іх складнікаў), якія знаходзяцца ў глабальным кампутарным сеціве Інтэрнэт".

Гэты дакумент быў прыняты дзеля выканання Дэкрэта №6 і паправак у Закон "Аб сродках масавай інфармацыі" і шмат у чым паўтарае іх палажэнні. Сярод навінаў – магчымасць блакавання інтэрнэт-рэсурсаў, сродкаў забеспячэння ананімнасці (проксі-серверы, ананімныя сецівы накшталт Tor і інш.), якія дазваляюць карыстальнікам інтэрнэт-паслугаў атрымліваць доступ да інтэрнэт-рэсурсаў, доступ да якіх абмяжоўваецца. Судовае абскарджванне рашэння Мінінфарма пра блакіроўкі сайтаў Палажэннем не прадугледжана. У адрозненне ад ранейшага парадку, пры якім доступ да сайтаў з "чорнага спісу" абмяжоўваўся ў абавязковым парадку толькі для дзяржаўных органаў, установаў адукацыі і культуры, адцяпер блакіроўка гэтых сайтаў пачала распаўсюджвацца на ўсіх карыстальнікаў Беларусі. Ранейшы "чорны спіс", у які былі ўнесеныя такія папулярныя інтэрнэт-рэсурсы, як www.charter97.org, www.belaruspartisan.org, http://spring96.org/, быў адменены. Аднак некаторыя беларускія правайдэры на працягу 2-3 дзён блакавалі доступ да гэтых сайтаў, пакуль не атрымалі новы спіс, у якім іх ужо не было.

## СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД ЖУРНАЛІСТАЎ-ФРЫЛАНСЕРАЎ

У першым квартале 2015 г. працягнуўся судовы пераслед журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Сямёра журналістаў у Брэсце і

Гомелі былі аштрафаваныя на сумы ад 20 да 40 базавых велічыняў (адна базавая велічыня тоесная 180 тысячам беларускіх рублёў, што прыблізна адпавядае 11-12 эўра).



Як і раней, падставай для застасавання санкцыяў да журналістаў паводле ч.2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях стаўся не змест матэрыялаў, а сам факт іх з’яўлення ў замежных СМІ.

## ХВАЛЯ ПАПЯРЭДЖАННЯЎ МІНІНФАРМА РЭДАКЦЫЯМ СМІ

На пачатку 2015 г. адразу некалькі незалежных выданняў - "Intex-Press" (Баранавічы), “Ганцавіцкі час” (Ганцавічы), “Барысаўскія навіны”, “Рэкламны БарЖоМі” (Барысаў), “Новы час” (нацыянальная газета) атрымалі папярэджанні ад Міністэрства інфармацыі. Прычынай для іх вынясення было няслушнае, на думку Мінінфарма, указанне ў выходных дадзеных назвы рэгіструючага органа (“Міністэрства інфармацыі РБ” замест “Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь”). Пасля таго як журналісты звярнулі ўвагу Мінінфарма на той факт, што ў шматлікіх дзяржаўных выданнях рэгіструючы орган указваецца падобным чынам, папярэджанні былі вынесеныя дзяржаўным выданням “Вожык” і “Наш край”.



Недзяржаўная “Газета Слонімская” атрымала папярэджанне за неўказанне накладу, нягледзячы на тое што ён быў указаны ў газеце на іншай старонцы.

Усяго за студзень – сакавік 2015 г. Міністэрства інфармацыі вынесла 27 папярэджанняў 26 сродкам масавай інфармацыі.

**Паводле закона “Аб сродках масавай інфармацыі” ў выпадку вынясення на адрас рэдакцыі двух або болей папярэджанняў на працягу года, незалежна ад прычыны вынясення папярэджання, Міністэрства інфармацыі можа звярнуцца ў суд з позвай аб закрыцці СМІ.**

**Масавае вынясенне папярэджанняў рэдакцыям СМІ ў год прэзідэнцкіх выбараў можа спрычыніць павелічэнне самацэнзуры ў СМІ.**

## ПЕРАШКОДЫ ПАДЧАС ПРАВЯДЗЕННЯ ФОТА- І ВІДЭАЗДЫМАК

Напрыканцы лютага і ў пачатку сакавіка 2015 г. сталіся больш частымі выпадкі затрымання грамадзянаў, якія здымалі адміністрацыйныя будынкі (у тым ліку будынак Акадэміі навук, ЗАГСа і інш.). Прынамсі трое журналістаў сутыкнуліся з перашкодамі сваёй прафесійнай дзейнасці. Свае дзеянні супрацоўнікі міліцыі тлумачылі атрыманым "унутраным" указаннем намесніка міністра ўнутраных спраў Мікалая Мельчанкі. Паводле іх словаў, указанне ад 25 лютага "арыентуе" супрацоўнікаў міліцыі даведвацца мэты правядзення фота- і відэаздымак адміністрацыйных будынкаў і саміх міліцыянтаў, затрымліваць асобаў, якія іх праводзяць, на тэрмін да 3 гадзін, правяраць адзняты матэрыял.



На зварот ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" з просьбай надаць гэтае ўказанне МУС адказаў адмовай, спаслаўшыся на ўнутраны характар гэтага дакумента і адсутнасць увядзення забароны відэа- ці фотаздымак адміністрацыйных будынкаў. У прыватнасці, паведамлялася, што гэтае ўказанне "рэгулюе выключна дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў".

Між тым, у адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, прававыя акты, якія абмяжоўваюць правы грамадзянаў, набываюць моц толькі пасля іх афіцыйнага апублікавання. Дакумент МУС перашкаджае журналісцкай дзейнасці і абмяжоўвае права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі. Акрамя таго, у ім утрымліваюцца палажэнні, якія супярэчаць Працэсуальна-выканаўчаму кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях, у прыватнасці, аб мэтах затрымання.

## БОЛЬШ ЗА 100 МАТЭРЫЯЛАЎ РАЗГЛЕДЖАНА НА ПРАДМЕТ НАЯЎНАСЦІ Ў ІХ ПРЫКМЕТАЎ ЭКСТРЭМІЗМУ



Такія лічбы агучыла 5 лютага на калегіі Міністэрства інфармацыі кіраўнік гэтага органа Лілія Ананіч.

У 25 з іх экспертныя камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці або адсутнасці ў ёй прыкметаў праяваў экстрэмізму знайшлі “прыкметы, якія падпадаюць пад вызначэнні “экстрэмізм, прапаганда ідэяў нацызму, расавай або рэлігійнай нецярпімасці” або “літаратура, якая можа быць выкарыстана ў тэрарыстычных мэтах”.

Першы намеснік міністра Уладзімір Матусевіч у адказе на запыт БАЖ паведаміў: “Сярод матэрыялаў, у якіх выяўленыя прыкметы экстрэмізму – кнігі А.Гітлера, Д.Рокуэла, А.аль-Бадра, падручнікі па вайсковай справе і інш.”. Разам з тым не былі выяўленыя прыкметы экстрэмізму ў раней сканфіскаваных на мытні і перададзеных на экспертызу 20 кнігах Зянона Пазняка, дакладзе беларускіх і ангельскіх праваабаронцаў “За паўгадзіны да вясны: даклад аб няроўнасці і дыскрымінацыі ў Беларусі”, кнізе пра палітычных вязняў у Беларусі “Palitviazni.info”, а таксама ў асобніках штотыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”, польска-беларускім слоўніку і іншых выданнях.

**Рэспубліканская і абласная экспертныя камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці ці адсутнасці ў ёй прыкметаў праяваў экстрэмізму былі створаныя на падставе пастановы Савета Міністраў №810 ад 21 жніўня 2014 г. Асабовы склад рэспубліканскай экспертнай камісіі зацверджаны гэтай пастановай.**

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

## “РЭПАРЦЁРЫ БЕЗ МЕЖАЎ” ПАКІНУЛІ БЕЛАРУСЬ НА 157-М МЕСЦЫ ПА ЎЗРОЎНІ СВАБОДЫ СМІ

Беларусь займае 157-ю пазіцыю сярод 180 краінаў свету ў Сусветным індэксе свабоды прэсы-2015, які прадставіла арганізацыя “Рэпарцёры без межаў”. Такое ж самае месца краіна займала летась.

Паводле “Рэпарцёраў без межаў”, Індэкс свабоды прэсы адлюстроўвае “ступень свабоды, даступнай журналістам, СМІ і актывістам грамадзянскай супольнасці ў кожнай з 180 краінаў, і намаганняў, якія прыкладаюцца ўладамі для захавання свабоды слова”.

## “МІЖНАРОДНАЯ АМНІСТЫЯ”: ПРАВА НА СВАБОДУ ВЫКАЗВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ ЖОРСТКА АБМЯЖОЎВАЕЦЦА

Міжнародная праваахоўная арганізацыя “Amnesty International” пашырыла справаздачу пра стан правоў чалавека ў 160 краінах свету. Адносна становішча ў галіне свабоды выказвання ў Беларусі эксперты “Міжнароднай амністыі” адзначылі, што ў 2014 г. гэтая свабода жорстка абмяжоўвалася. “Незалежныя СМІ зазнавалі перашкоды; супраць блогераў, інтэрнэт-актывістаў і журналістаў заводзіліся адміністрацыйныя і крымінальныя справы”. У дакуменце адзначалася, што з красавіка 2014 г. беларускія ўлады пачалі застасоўваць арт.22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (норму аб незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ) для пераследу журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ.

